 

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 23 (954) ГОД XIX БЕЛАСТОК 9 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.






## ВЯСКОВЫ ЛЕКАР

Сядзелі мы ў лекарскай прыёмнай кляшчэлеўскага цэнтра здароўя. Доктар Аляксандр Малец расказваў пра тое, што дагэтуль здарылася ў яго жыцці, што за свае 53 гады ён бачыў і перажыў.

Я слухаў і запісваў. Аднак назойліва вярталася думка: ці можа на долю аднаго чалавека выпасці аж столькі перажыванняў!? Бо дзе ён не быў, чаго ён не бачыў, чым не займаўся! Адзін з васьмі сыноў селяніна з вёскі Дубна ў Бельскім павеце...

— Пры жыцці яшчэ засталося нас сем, — кажа мой субяседнік. — Пяць маіх братоў знаходзяцца ў БССР, у Мінску. Ратуючыся ад бандаў рэакцыйнага падполля, яны разам з бацькамі ў 1945 годзе выехалі ў Савецкі Саюз. Я застаў-

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



## Чарговы школьны

19 мая ў будынку ГП БГКТ адбыўся чарговы, ужо чатырнаццаты міжшкольны конкурс песні. Арганізатарамі конкурсу былі, як і ў папярэднія гады, Галоўнае праўленне нашага таварыства, Кураторыя беластоцкай школьнай акругі, аддзел асветы і рэдакцыя „Нівы".

Напярэдадні цэнтральнага агляду адбыліся павятовыя конкурсы, дзякуючы якім на цэнтральны агляд было выбрана 49 найлепшых спевакоў з розных школ

Вялі конкурс-канцэрт дзяўчынкі з беларускага ліцэя ў Бельску Бася Гардзеюк і Крыся Парфенюк. Гэта ўнесла ў традыцыйны ўжо конкурс нейкае новае, прыемнае афармленне.

Журы конкурсу, старшынёй якога была Зоф'я Гладышэўская, выкладчык музыкі ў беластоцкім філіяле Варшаўскага ўніверсітэта, высока ацаніла працу настаўнікаў, якія рыхтавалі сваіх выхаванкаў да конкурсу. Асабліва добрай музычнай падрыхтоўкай адрозніваліся вучні з Гарадка (настаўнік Сцяпан Копа).

Найвышэй камісія ацаніла спеў Галіны Беглюк з Гайнаўкі. Ёй была прызнана першая ўзнагарода. Другое месца было падзелена паміж Аляй Назарук з Гайнаўкі і Аляй Кузьміцкай з Гарадка. Трэцяе месца заваявала Марыся Прышчэпка з Баброўнікаў.

У групе дуэтаў першае месца было падзелена паміж дуэтамі з Гарадка (Аля Кузьміцкая і Тэрэса Жугай) і Гайнаўкі (Галіна Беглюк і Аля Назарук), а другое прызнана сёстрам Еве і Галене Ваўрэшук з гайнаўскай школы № 3. У групе трыо журы вырашыла месц не прызнаваць, паколькі было іх толькі два, нічым спецыяльна не выдзяляліся, амаль тыя самыя ўдзельнікі прыгажэй спявалі ў дуэтах і квартэтах. Сярод квартэтаў найлепшымі аказаліся дзяўчаты з Рагачоў (Сямяціцкі павет) і дзяўчаты з Плёсак (Бельскі павет).



*Іра Грыка і Пеця Ваўранюк з вёскі Вейкі Беластоцкага павету вельмі спадабаліся гледачам.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

Спецыяльную ўзнагароду „Зоркі" атрымала адна з наймалодшых удзельніц конкурсу, вучаніца 5 класа з Дубіч Царкоўных Міраслава Панфілюк.

Наогул трэба адзначыць, што конкурс быў вельмі прыемны, адзначаўся спраўнай арганізацыяй, удзельнікі добра ведалі, хто калі выступае, не было ніякай суматохі, а ў зале панавала сардэчная, можна сказаць, сяброўская атмасфера. Усе ўдзельнікі былі добра падрыхтаваны, акуратна і прыгожа апрануты, смела выходзілі на сцэну, і амаль не заўважалася, каб моцна хваляваліся. Відаць, не ўпершыню большасці з іх давялося выходзіць на сцэну. Шкада

(Працяг на стар. 2)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Ажыннік

Скрытая ў глушы Супрасльскіх лясоў, гэтая маленькая вёсачка знаходзіцца недзе каля 7 кіламетраў на паўночны ўсход ад Васількова, што ў Беластоцкім павеце. Гаспадарак тут усяго 6 і толькі 31 жыхар.

Мясцовыя прозвішчы: Гаўрылюк, Лабовіч, Мірон, Рутkоўскі.

Назвы ўрочышчаў у навакольным лесе: Жабі Луг, Козі Рог, Пярэйма, Чырвона Вада; ручаёў: Пстрангоўня і Чумазоўка; пагоркаў: Чумазоўскія Горы; багна: Барсуковіна, частка поля: Кола, Кут, Між Загайнікам і Лесам.

Няма сумнення, што гэтае паселішча займела назву ад слова „ажына". „Ежына" — лясная расліна, падобная да маліны, мае цёмнасінія або чорныя ягады і надта вострыя шыпы. Звычайна ажына расце на месцы вырубанага або спаленага лесу, на палянах, запушчаных кавалках „навін" (поля па выкарчаваным лесе). Значыць, вёска Ажыннік паўстала на слядах колішняй тут дзейнасці чалавека.

І праўда, як кажуць тутэйшыя старажылы (Уладзіслаў Гаўрылюк, 74 гады), была тут калісьці леснічоўка. Аб'ездчык (ляснік) Рыгор Чабан вакол яе атрымаў за сваю службу надзел, таму і сталі суседнія паселішчы зваць свае палеткі, што гранічаць з Ажыннікам, не інакш, як „пад Чабаном".



*У глушы Супрасльскіх лясоў скрываецца вёсачка Ажыннік.*

Хоць Ажыннік — вёсачка малая, але мае яна вельмі багатую гісторыю. Калі ў 1863 годзе ўспыхнула Студзеньскае паўстанне, Рыгор Чабан забяспечваў паўстанцаў харчамі, быў іх праваднікам. Шпіёны Мураўёва-вешацеля высачылі яго, і закаваны ў кайданы ляснік павандраваў па этапах у далёкую Сібір, дзе і след па ім загінуў.

Калі ж у чэрвені 1941 года Беласточчына апынулася пад нямецкай акупацыяй, адразу ў навакольных лясах паявіліся партызаны. З бегам часу яны арганізаваліся ў моцны і аператыўны атрад, які трывала абсталяваўся ў сваёй базе ў лесе каля Ялоўкі, што знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад Ажынніка. Партызаны актыўна дзейнічалі на чыгуначных лініях і шасейных дарогах Беласток—Гродна, Беласток—Ваўкавыск, правялі шэраг аперацый у самім горадзе Беластоку. З дапамогай ім прыходзілі жыхары навакольных вёсак. Асабліва ж часта сустракаўся з партызанамі пастушок з Ажынніка Людвік Буцько. Ён знаходзіў зброю і амуніцыю і перадаваў ім, паведамляў аб руху нямецкіх атрадаў. Фашысты, каб выкрыць партызан і людзей, што ім дапамагаюць, выслалі ў Супрасльскія лясы спецыяльны атрад, пераапрануты за партызан. Напаткаўшы ў лесе Людвіка, прыкінуліся партызанамі, папрасілі патронаў. Хлопец ім паверыў. Тады фашысты адразу расстралялі яго. Трагічны лёс спаткаў таксама і партызанскую базу. Кажуць, высачылі фашысты яе па зярнятах фасолі. А было гэта так. Аднойчы група партызан вярталася з правіянтам на базу і не заўважыла, што ў мяшку з фасоляй была дзірка і зярняты час ад часу выпадалі з яе. Нямецкія сышчыкі адкрылі гэтую „белую дарожку", акружылі базу. Бой быў жорсткі. Адзін з партызанаў загі-

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Турыстычная Белавежа

Многа ў нашай краіне такіх мясцін, у якіх пабываць проста неабходна. Такім месцам з'яўляецца праслаўленая Белавежа, найстарэйшы Нацыянальны парк у Польшчы. Каралеўства зуброў.

Ахвотна едуць у Белавежу школьнікі і пенсіянеры, экскурсіі і паасобныя турысты, вучоныя і простыя людзі. Усе, хто любіць родную прыроду.

Турыстычны сезон у Белавежы працягваецца практычна цэлы год. Пушча не скупіць сваёй першабытнай прыгажосці ні восенню, ні зімою.

Усё-ткі ў вясеннія і летнія месяцы прыязджае сюды найбольш польскіх і замежных турыстаў. Ужо ў пачатку гэтага года наведалі яе турысты з ГДР, Францыі, Венгрыі, Манголіі, ЗША. Варта аднак ведаць і аб тым, што аграмадная колькасць турыстаў не абыходзіцца пушчы без шкоды. Турысты ж бываюць розныя, неаднолькава дысцыплінаваныя. Ні пры чым для такіх праваднік. Наносяць яны порчы, якіх не направіць. Турыстычную жамчужыну трэба аберагаць!

Найбольшым скарбам Белавежы з'яўляецца запаведнік, у якім ужо сотні гадоў гаспадарыць сама прырода. У будучыні апрача запаведнікаў з зубрамі і тарпанамі, будуць таксама запаведнікі з аленямі, ласямі і сарнамі. Ужо цяпер парадкуюцца мясцовыя ставы. На адным з іх можна будзе плаваць на лодках або байдарках, а другі будзе адведзены для лебедзяў.



*Старажытная брама — астатак па даўнім царскім палацы ў Белавежы. Будзе яна рэстаўрыравана на бюро турыстычных паслуг і пакойчык для праваднікоў.*

Для кожнага турыста важнай справай з'яўляецца справа харчавання і начлегу. У Белавежы ёсць каля 600 начлежных месцаў: у гасцініцы „Іва“, пабудаванай старанем Міністэрства лясніцтва на месцы спаленага ў час другой сусветнай вайны колішняга царскага палаца паляўнічых — 140 месц, у начлежнай базе ПТТ-К, на якую прыстасавана казацкая канюшня — 128 месц, у Лясным тэхнікуме — 90 месц, у прыватных кватэрах — 250 месц. Харчавацца можна ў рэстаранах „Пад сарнай“, „Пад зуброўкай“, у гасцініцы „Іва“. Агулам ёсць каля 1000 спажывецкіх месц.

Пацяшальным з'яўляецца факт, што ўрэшце адкрыты ў Белавежы спецыяльны гандлёвы павільён з рэгіянальнымі сувенірамі на добрым узроўні. Знаходзіцца ён непадалёку ад уваходу ў палацовы парк.

У час турыстычнага сезону на турыстычнай базе ПТТ-К можна будзе пазычыць на прагулку веласіпеды, лодкі, байдаркі і іншае турыстычнае абсталяванне.

Адпачываецца ў Белавежы цудоўна. Калі хто захоча прыслухацца да расказаў мясцовых старажылаў, дык пачуе цікавыя апавяданні пра паляванні каралёў і цароў, пра засохлы дуб Ягайлы...

**Я. Цялушэцкі**
**Фота аўтара**

# КОНКУРС ГП БГКТ

## „Мае веды аб Народнай Польшчы“

У сувязі з 30-годдзем народнай краіны ГП БГКТ аб'яўляе конкурс „Мае веды аб Народнай Польшчы“. Конкурс складаецца з двух этапаў: пісьмовага і вуснага, з тым, што ў другім этапе ўдзельнічаюць аўтары найлепшых пісьмовых адказаў.

## Конкурсныя пытанні

**1. Якую ролю ў жыцці нашай краіны сыграў Маніфест ПКВН?**
**2. Аб чым гаворыць 79 закон Канстытуцыі ПНР?**
**3. Назавіце і ахарактарызуйце 10 аб'ектаў, якія лічыце найважнейшымі ў пабудовах 30-годдзя.**
**4. Што ведаеце аб развіцці Беласточчыны за гады народнай улады?**
**5. Што ведаеце аб перспектывах развіцця Беласточчыны?**
**6. Што ведаеце аб польска-беларускіх сувязях пасля II сусветнай вайны?**
**7. Што ведаеце аб развіцці беларускай асветы ў ПНР?**
**8. Што ведаеце аб БГКТ?**
**9. Што ведаеце аб „Ніве“?**
**10. Назавіце найбольш вядомых вам беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць і пішуць у Польшчы. Што ведаеце аб іх творчасці?**

Пісьмовыя працы трэба дасылаць у ГП БГКТ да 30 верасня г.г.

Пераможцаў чакаюць каштоўныя ўзнагароды: фотаапарат, транзістарны радыёпрыёмнік, ручны гадзіннік, кніжныя ўзнагароды.

Літаратура: „Беларускія календары“, Інфарматар „BTSK“, альманахі і іншыя літаратурныя выданні БГКТ, а таксама „Ніва“, „Беластоцкая газета“ і інш.

# ТРУСКАЛКІ, ТРУСКАЛКІ...

Набліжаецца чарговы трускалкавы сезон. Многія сяляне з задавальненнем спаглядаюць на свае плантацыі, якіх на Беласточчыне не кранулі замаразкі. Адначасова з жахам успамінаюць мінулы год, калі на чатыры дні найбольш інтэнсіўнага збору трускалак не хапіла лубянак, у выніку чаго змарнавалася ягад на дзесяткі тысяч злотых.

Як нас паінфармавалі ў Ваяводскім саюзе агароднінна-пчалярскіх кааператываў у Беластоку, такога недахопу ў іх працы больш не здарыцца. У 1973 г. наступіла адначасова змяншэнне прадукцыі лубянак і непрадугледжанае павелічэнне плошчы пасеваў з адначасовым узростам ураджаяў з гектара. Трускалкі займалі ў Беластоцкім ваяводстве каля 2 тысяч гектараў пасяўной плошчы, у тым ліку ўдзел адзначанага саюза складаў 1400 гектараў. У гэтым годзе прадугледжваецца ўзрост агульнай плошчы на 500 гектараў.

Асноўнымі раёнамі распаўсюджвання трускалак з'яўляецца Беластоцкі павет (гміна Заблудава і вакол г. Беластока) — каля 100 гектараў і Сакольскі павет (гміна Сухаволя). Меншыя пасевы выступаюць у Гайнаўскім павеце (Сацы, Трасцянка), у Бельскім (Краснавесь, Нурэц, Плёскі), у Сямяціцкім (Драгічын), Дуброўскім і іншых. Палітыка раёнізацыі і абмежаваны рынак не дазвалялі пашыраць плошчу трускалак. Як будзе далей, яшчэ невядома. Зроблена спроба вырашэння праблемы лубянак. У гэтым годзе да ліку старых лубянак далучана 1350 тысяч новых, з чаго паўмільёна — нетрывалых, з паперы, з імі трэба будзе абыходзіцца ў дажджлівыя дні больш асцярожна. Новыя лубянкі можна раней пазычыць і пераховўваць да моманту збору. Прадугледжваецца, што ў гэтым годзе дасягне ён 12 400 тон трускалак, гэта значыць амаль на 25% больш, чым у мінулым годзе. Каардынацыйная камісія, якая акрэслівае для паасобных установаў кампетэнцыі і цэны, надалей, як адзіная ў краіне, хоча ўтрымаць у адрозненне ад рыначных сталыя і аднолькавыя цэны за першыя і апошнія трускалкі (пры захаванні іх адпаведнай якасці). А на гэта асноўны ўплыў мае не ўраджайнасць глебы, а яе дагледжанне, атмасферныя ўмовы, чысціня ягад. Аграслужба заахвочвае да ўмелага палівання плантацый ад шкоднікаў, але ў большасці выпадкаў не раіць з розных прычын прымяняць штучныя ўгнаенні.

У гэтым годзе павялічыцца лік скупачных пунктаў трускалак з 74 у 1973 годзе да 104. Вырашана, што адзін такі пункт павінен прыняць не больш, чым 150 тон трускалак і ахопліваць вёскі, што знаходзяцца ў дыяпазоне 5 кіламетраў. Гэта вестка павінна цешыць сялян, якія дагэтуль пасля напружанай працы пры зборы ўраджаю вымушаны былі стаяць ноччу па 3—4 гадзіны ў чарзе, каб здаць закантрактаваныя трускалкі. У гэты некалькідзённы перыяд час надта дарагі і траціць яго нельга.

Паўстае пытанне, чаму на Беласточчыне сфарміравалася так хутка трускалкавая база і ці яна будзе трывалай. Трэба адразу заўважыць, што менавіта Беласточчына мае да развядзення гэтай культуры спрыяльныя прыродныя ўмовы і працавітае насельніцтва. Аднак да нядаўна гэтыя рэзервы не выкарыстоўваліся ў гэтым напрамку, таму што на трускалкі не было загарантаванага рынку збыту. Па меры ўзросту прадукцыі рынак гэты пачаў пашырацца спачатку ў сваім ваяводстве, пасля на суседнія і цэлую краіну. Дасканалая якасць ягад, крыху пазнейшая іх спеласць спрыялі гэтаму. Частка ягад экспартавалася ў краіны Заходняй Еўропы. У 1973 годзе каля 200 тон выслана ў СССР. У гэтым годзе міждзяржаўная ўмова прадугледжвае ўжо 1400 тон.

У спалучэнні з мясцовым узрастаючым запатрабаваннем складзе гэта, праўдападобна, трывалы рынак збыту. А гэтага менавіта не хапала Беласточчыне.

**У. Юзвюк**



*Міхалоўскія ліцэісткі на ўроку фізкультуры.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

# ЗАДРЫПАНКА

## ВЯЛІКІ ФУТБОЛ

Футбольны гармідар, што спадарожнічае сусветнаму чэмпіянату, разгойдаў спартыўныя амбіцыі задрыпанцаў.

Пачалося з усведамлення прапушчанай аказіі стаць слаўнымі ў глабальным маштабе. Для гэтага дастаткова было ўвесці ў зборную краіны хоць аднаго задрыпанца. Адчуваеце захоплены гул стадыёнаў? Трэск сотняў фотаапаратаў? Шум кінакамер і бляск тэлевізійных юпітэраў? Усё накіравана на нашага прадстаўніка. Але, на жаль, у Манахію, як збеларушчыў (з польскага) сёлетнюю футбольную Мекку доктар Цімох Скок, ніхто з задрыпанцаў не паедзе.

Вышэй спамянуты энтузіяст турыстычнага развіцця Задрыпанкі і выступіў з прапановай нагнаць упушчанае. Так узнікла ў нас футбольная дружына „Задрыпонія“.

— Першая задача, — сказаў доктар Скок, — выйграць чэмпіянат гміны. Потым паставяцца вышэйшыя задачы. Аж да Мэты.

А нашу мэту (прапушчаную) вы ўжо ведаеце. Ясна, Манахію праваронілі, але ж на ёй футбольны свет не канчаецца. Наперадзе новыя святыя месцы. Найважнейшае выпрацаваць правільную стратэгію і дзейсную тактыку. З гэтым у нас найбольшы амбарас. Любымі спецыялістамі Задрыпанка багата, а вось Гурскага не нарадзіла.

Адправіліся тады задрыпанцы пераймаць вопыт у Беласток на стадыён „Гвардыі“. Растрыбушыліся ў цэнтральным сектары і мазгуюць. Якраз „Влукняж“ гуляў з „Арконіяй“. Хоць беластаччане і ціснуць шчэцінян, ды размачыць сухога ліку не могуць. У пустыя вароты не трапляюць. Нэндза! Трыбуны мацюкаюцца і енчаць:

Влукняж, Влукняж, ешче кашу,
Пашкадуйце долю нашу!

Доля, праўда, незайздросная, але і ўстаноўчы вынік такога стымулявання цяжка паверыць. Не развеяў змрочных думак і іншы лозунг-маленне беластоцкіх балельшчыкаў:

Влукняж, Влукняж, асы, асы,
Не руйнуйце пустой касы!

Гэта ж марадзёрства! Дно! Яўна не спадабалася задрыпанскім назіральнікам псіхалагічная зброя беластоцкіх паклоннікаў скуранной багіні. У перапынку Кастусь кажа:

— Зменім, браткі, месца, інакш „Влукняжу“ не ўтрымацца ў II лізе.

Перайшлі за вароты „Арконіі“. І „Влукняж“ перамог з самым буйным лікам у сезоне. Тут Кастусь вырас у першага стратэга „Задрыпоніі“. Нарадзіўся і наш першы тактычны манеўр: у кожным матчы абяспечыць Кастусю месца за варотамі праціўніка. Гэту задачу здзяйсняць будуць самыя дужыя хлопцы. Вымaнеўруюць, будзьце спакойны.

Цяпер аб дружыне. Доктар Скок прапанаваў запрасіць у яе беластоцкага бамбардзіра Селівоніка, які прыйшоў у Беласток з Гайнаўкі і яшчэ ў сталіцы ваяводства не засядзеўся. Падрыхтаваў нават у яго гонар дыфірамб:

„Задрыпоніі“ арол —
Што ні ўдар, то гол, то гол!

Ды задрыпанцы вырашылі будаваць дружыну на здаровых пачатках. Таму яны і выступілі супраць услаўлення ідала.

— Кадзільным дымам толькі пыху надзімаць можна, а не кідаць у бой арлоў, — сказаў Кастусь і засупоніў свой дэвіз:

— „Задрыпонія“, у атаку,
Бо усыплем вам у с...у!

Не толькі аказаўся першым стратэгам, але і здольным псіхолагам. Дэвіз Кастуся задрыпанцы прызналі трапным і ўзялі на ўзбраенне дружыны.

Засталося назваць галоўных герояў маршу да Мэты — ігракоў „Задрыпоніі“, але не зробім гэтага з тактычных меркаванняў: канчаецца футбольны сезон, і беластоцкім дружынам ой як патрэбны перспектыўныя футбалісты. Не з намі, паны капэровічы!

З футбольным прывітаннем

**ДЗЗ**

 

Пачатак на стар. 1

# Ажыннік

нуў у ім, іншым удалося скрыцца ў лесе.

Але неўзабаве партызаны заснавалі новы свой лагер ва ўрочышчы Груд непадалёк ад Ажынніка. Знаходзіліся там усё лета 1943 года. Мясцовыя жыхары С. Мірон і Ю. Руткоўскі дастаўлялі ім харчы. Партызаны давалі грошы, і яны купіўшы хлеба ці тлушчу, клалі ва ўмоўленым месцы ў лесе.

Прыйшло вызваленне, але часы трывогі не скончыліся для жыхароў Ажынніка. У 1946 годзе Супрасльскія лясы аблюбавала сабе на сховішча банда рэакцыйнага падполля. Грабіла і тэрарызавала насельніцтва навакольных вёсак. А калі ў вербную нядзелю 1947 года распалажылася ў Ажынніку на начлег, акружыла яе вайсковая часць корпуса ўнутранай бяспекі. Пасля кароткай перастрэлкі бандыты разбегліся, пакідаючы на ажыннікаўскім полі двух забітых. У часе бою загінуў таксама адзін салдат КБВ.

Калісьці жылося ў Ажынніку не надта соладка: зямлі тут мала, ды і радзіла яна слаба. Наймаліся працаваць у лесе, займаліся вывазкай драўніны. Але найгорш было з вадою. Студня, выкапаная на глыбіню 70 м, не дала ані кроплі вады. Увесь час трэба было давозіць бочкамі з ляснога пасёлка Панурае, што знаходзіцца ў 3 кіламетрах ад Ажынніка. Таму і вада тут была, як на лякарства.

— *Вось тут, на грудзе ля Чырвонай Вады мы клалі хлеб і іншыя харчы партызанам, — паказвае Сцяпан Мірон.*

Жыццё змянілася толькі ў апошнія гады. Дзяржава коштам 160 тысяч злотых пры 7,5 тысяч укладу насельніцтва пабудавала глыбінны калодзеж. У 1972 годзе ў Ажынніку заззяла электрычнае святло. У кожнай хаце цяпер сталі паяўляцца радыёпрыёмнікі, электрычнае абсталяванне, у вёсцы ёсць ужо 4 тэлевізары. Людзі сталі больш увагі прысвячаць гадоўлі быдла і свіней, палепшыліся ўраджаі.

За гады народнай улады з ляснога Ажынніка выйшла ў свет шэраг адукаваных людзей. Леанід Гаўрылюк закончыў Вышэйшую сельскагаспадарчую школу ў Ольштыне і цяпер працуе ў Беластоку, Яўгеній Лабовіч закончыў Ваенную тэхнічную акадэмію, Сцяпан Гаўрылюк — Механічны тэхнікум у Беластоку, Ольга і Анатоль Мірон — сельскагаспадарчыя тэхнікумы, Веслаў Руткоўскі — электрычнае вучылішча. Шмат моладзі яшчэ вучыцца.

Людзі ў Ажынніку гаспадарныя і працавітыя. Побач з працай на гаспадарцы яны займаюцца яшчэ і дадаткова, у лесе. І ўсё было б добра, калі б вёска мела ўдосталь вады. Глыбінны калодзеж штораз то і забастуе, трэба за луг, але ўсё ж гадуюць даволі многа жывёлы, маюць сельскагаспадарчыя машыны. Напрыклад, Сяргей Лабовіч гадуе 3 дойныя каровы, штогод здае 5—6 кормнікаў. Сее ўласным сеўнікам, мае касілку.

І не такі ўжо глухі куток гэты лясны Ажыннік.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



## Добры клуб у Тыневічах Малых

Клуб прэсы і кніжкі „Рух“ з'яўляецца маладым клубам. А ўсё ж яго дзейнасць заслужыла на ўвагу і прызнанне людзей. Дзякуючы стараниям рады клуба і яго гаспадара Софіі Асташэўскай арганізуюцца тут цікавыя вечары і выстаўкі. У лістападзе мінулага года адбылася сустрэча з вядомым пісьменнікам Беластоцкай зямлі Аляксандрам Амільяновічам. Была ў клубе выстаўка вырабаў мясцовых ткачоў. Запрошаны афіцэр з Вайсковай палітычнай акадэміі ў Варшаве расказаў аб сітуацыі на Блізкім Усходзе. Вечары, гутаркі, даклады і сустрэчы падабаюцца мясцовым гаспадарам. Многа памагае клубу сельскагаспадарчы інструктар гміны ў Нарве — Станіслаў Каліноўскі. Ён стараецца распаўсюджваць сельскагаспадарчую культуру сярод гаспадароў. (мг)

## 500 лясных стаянак аўтамабіляў

Ляснічыя Беластоцкага ваяводства задбалі аб лясных стаянках для аўтамабіляў. Ёсць іх цяпер каля 500. Найлепш абсталяванай з'яўляецца стаянка на шляху Беласток — Аўгустоў, у Кнышынскай пушчы. (ця)

**Чытайце і распаўсюджвайце „Ніву“!**

## Людзі БГКТ

### Мікалай Суліма

Мікалай Суліма з'яўляецца дырэктарам упраўлення паштовых установ у Гайнаўскім павеце. За гады яго кіраўніцтва Гайнаўшчына атрымала густую сетку тэлефоннай сувязі. Цяпер дзейнічае тут 20 паштовых установ. Усе яны добра працуюць і займаюць самыя пачэсныя месцы ў сацыялістычным спаборніцтве. Яшчэ ў гэтым годзе ў Гайнаўцы будзе аддадзена ў карыстанне аўтаматычная тэлефонная станцыя.

Апрача прафесіянальнай працы, Мікалай Суліма многа часу прысвячае грамадскім абавязкам. Ён член Галоўнага і павятовага праўленняў БГКТ, прапагандыст нашага беларускага тыднёвіка „Ніва“.

На Гайнаўшчыне налічваецца найбольшая колькасць гурткоў БГКТ. Адзін штатны інструктар не зможа наведаць кожны паасобны гурток. Таму ў працы дапамагаюць яму грамадскія актывісты і дзеячы БГКТ. Адным з іх з'яўляецца і Мікалай Суліма, шматгадовы дзеяч таварыства.

Дырэктар Мікалай Суліма ўжо 26 гадоў працуе паштавіком. Ад 1949 года з'яўляецца членам партыі. Ён узнагароджаны Залатым медалем заслугі, адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны“, 400-годдзя польскай пошты, 1000-годдзя Польскай дзяржавы, Залатой адзнакай ТППР і іншымі ўзнагародамі. (ця)

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА III

Багдановіч быў прыгожым хлапцом. Высокі, з густымі валасамі, задумёным позіркам. Бацька паэта піша, што Максім „роста был высокого, хорошо сложен, но держался несколько сутуловато. Волосы имел густые, слегка волнистые, тёмнорусые, в бороде и усах каштановые. Глаза серые“.

Пасля заканчэння гімназіі перад Максімам стаяла пытанне адносна выбару жыццёвага шляху. Зрэшты, была гэта праблема хутчэй для бацькі, чым для Максіма. Бацька мог сумнявацца ў выбары шляху, але не сумняваўся Максім. Ведаў, што яго шлях павінен ісці ў Беларусь. Жывучы ў глыбіні Расіі, крышталізуючыся як беларускі паэт, Максім не адну ноч правёў над роздумам аб Беларусі. Аб той далёкай краіне, якая засеяла ў яго сэрцы найпрыгажэйшую кветку света — ружу паэзіі. У Беларусі Максім быў усяго адзін раз. Запрасілі яго падчас канікул выдаўцы „Нашай нівы“ браты Луцкевічы. Закончыўшы сярэднюю школу, Максім пастанавіў ехаць у Беларусь другі і апошні раз. Беларусь у той час знаходзілася ў выключна цяжкім становішчы. Была яна часткова занята нямецкімі войскамі. Зруйнаваная гаспадарка, тысячы выгнаных з сваіх хат бежанцаў, бяздомныя дзеці — усё гэта складала спецыфіку беларускага жыцця. Багдановіч прыходзіць да вываду, што ён патрэбны няшчаснай Беларусі, а Беларусь неабходная яму, няшчаснаму. Нягледзячы на паглыбленую хваробу, у другой палове 1916 года Максім паведамляе свайму бацьку аб рашэнні ехаць у Беларусь. У верасні 1916 года Багдановіч пакідае Расію і выязджае ў Мінск. Чакалі яго там сябры — дзеячы „Беларускай хаткі“ і „Таварыства дапамогі ахвярам вайны“. Сярод тых, хто прывітаў Максіма ў Мінску, былі Смоліч, Ядвігін Ш., Бядуля, Галубок і Людвіка Войцікава. Гэтая апошняя напісала ўспаміны аб прабыванні Багдановіча ў Мінску. На некаторыя фрагменты гэтых успамінаў варта спаслацца. Войцікава пацвярджае многае з таго, што гаварыў пра Максіма яго бацька. Гэтая супольнасць праяўляецца перш за ўсё ў характарыстыцы адносін Багдановіча да сваёй хваробы. І бацька паэта і Войцікава гавораць, што Максім абыякава адносіўся да лячэння сваёй хваробы і часта забываў прыняць лякарствы.

Ужо ў першыя дні прабывання ў Мінску Багдановіч заваяваў агульную сімпатыю. Пасяліўся ён у кватэры Бядулі, сталаваўся ў сталоўцы „Беларускай хаткі“. Войцікава ўспамінае, што зараз жа пасля прыезду заявіў, што не будзе піць салоджанага чаю. Усе былі здзіўленыя такім паступкам паэта. Характар сваёй пастановы высніў Багдановіч у размове з Войцікавай наступным чынам:

„ — Бачыце, — кажа, — я вельмі перажываю тое, што я бяссільны памагчы тым, хто цяпер падчас вайны церпіць голад, асабліва шкадую дзяцей... Калі я сабе адмаўляю таго, што люблю (бо, прызнацца, люблю салодкую гарбату), мне здаецца, што я раблю нейкую ахвяру, і гэта хоць крыху пацяшае...“

— Выбачайце, — кажу, — але фактычна ваша ахвяра нічога дзецям не дае.

— А гэта пабачым, — неяк загадкова адказаў.

І сапраўды, праз нейкія тры месяцы пабачылі. Багдановіч працаваў у магістраце ў аддзеле харчавання. Там працаўнікам апрача платы выдавалі „паёк“, пераважна цукар. І вось у адзін дзень раніцай, выходзячы на працу, Багдановіч просіць маю матку, каб дала яму чыстую пошаўку. Увечары, калі ўсе сабраліся і дзівіліся, чаму няма Багдановіча, ён прыйшоў позна і прынёс больш як паўпуда цукру“.

Хвароба Багдановіча ў часе прабывання яго ў Мінску ўсё больш паглыблялася. Паэт быў прымушаны ехаць у Крым на лячэнне. Дамовіўся лістоўна з бацькам, што абодва выедуць у Сімферопаль у канцы лютага 1917 года. Максім бярэ двухмесячны водпуск і едзе цягніком. За Гомелем на бязлюднай станцыі цягнік, якім едзе Максім, стаіць аж тры дні. Замецены снегам рэйкі. Хворы Максім без яды цярпліва чакае. З даездам у Сімферопаль мае клопаты і яго бацька. Выбухае лютаўская рэвалюцыя, і толькі праз 10 дзён пасля дамоўленага тэрміну Адам Багдановіч едзе да сына, які ўжо знаходзіўся ў Крыме. У Сімферопалі, дзе дамовіўся Максім сустрэцца з бацькам, нікога ён не сустрэў. Пачакаўшы некалькі дзён, паехаў ён адзін у Ялту і там наняў пакойчык. Бацька, заняты справамі, звязанымі са службай у сялянскім банку, не меў магчымасці паехаць да сына. Максім тым часам дажываў у Ялце свае апошнія дні. Не суджана было яму ўбачыць больш бацьку і Беларусь. Максім пасяліўся ў кватэры, у якую ўваходзілася лесвіцай, падвешанай па знешняй сцяне. Жыў на другім паверсе. Пакой Максіма быў ізаляваны ад кватэры гаспадыні. Памёр Багдановіч ноччу 12 мая 1917 г. Ніхто не ведаў аб яго смерці. Гаспадыня, занепакоеная цішынёй у пакоі кватаранта, пастанавіла наведаць яго. Застала залітае крывёю, хлынуўшай з горла, мёртвае цела. Так памёр найвялікшы беларускі паэт. Самотны, якой была і яго айчына.

Бацька прыехаў праз чатыры дні пасля смерці. Максім быў ужо пахаваны на ялцінскіх могілках. На белым крыжы высечаны надпіс: „Максім Адамавіч Багдановіч“.

Максім, чуючы набліжэнне смерці, прагнуў быць пахаваны ў роднай зямлі. Мара паэта не збылася.



 

# Выпадак на экзамене

У аўдыторыі сядзяць двое. За сталом — прафесар: ён у акулярах, трымае ў руцэ насоўку, другой падпёр шчаку, на твары з'явілася грымаса, як ад невыноснага зубнога болю. Перад ім ляжыць заліковая кніжка студэнта. Насупраць сядзіць студэнт. Малады чалавек — сама сіла і здароўе — у бадзёрым настроі. Ён спачувальна глядзіць на прафесара, які час ад часу прыкладвае хустачку да ўспатнелага ілба.

— Як я вас, юнак, зразумеў, стыпендыі вы не атрымаеце?

— Так, прафесар, вы вельмі добра разумееце. Хто з нашага брата хоць адну „вудачку" адхопіць, лічы, што матэрыяльнага дабрабыту пазбавіўся. Яна, стыпендыя, — наша карміцелька, капрызлівая і не кожнаму даецца ў рукі.

— А што гэта за „вудачка"?

— Інакш кажучы, здавальняючая ацэнка.

— Шкада, вельмі шкада. Вы даражэнькі мой, нават да гэтай самай „вудачкі" не дацягнулі. — Прафесар здымае акуляры, асцярожна выцірае лоб, потым шкельцы, зноў надзявае іх на нос і паверх акуляраў глядзіць на студэнта. Позірк яго сумны, хваравіты, быццам прафесар толькі што падняўся з бальнічнага ложка.

— Што мне з вамі рабіць, розуму не прыкладу, — сказаў прафесар. — Ён бярэ ў рукі заліковую кніжку, зноў кладзе на месца. Твар яго паступова чырванее.

— Прафесар, вы не хвалюйцеся. У вашым узросце гэта вельмі шкодна. Мой сябар надоечы здаваў экзамен, дык, вы ведаеце, адбылося непрыемнае здарэнне, давялося ратаваць прафесара, выклікалі хуткую дапамогу: сябар атрымаў дрэнную адзнаку, а прафесар — інфаркт. А пры здачы экзамена іншым маім сябрам прафесар зусім...

— Не трэба, — замахаў рукамі прафесар, — такія страшныя гісторыі.

— А я ведаю, як студэнта выносілі з экзаменаў: бядак не вытрымаў напружання.

— Не, не, толькі не гэта, як можна. — Прафесар апусціў галаву, твар яго стаў бялюткім, як школьная крэйда, вусны затрэсліся.

— Прафесар, вам нядобра, я лепш заўтра прыйду. Заўтра раніцай і здадзім экзамен, я ўпэўнены, што здадзім.

— Заўтра? Не! Дзе кніжка, дайце яе сюды, — ледзь вымавіў прафесар.

Студэнт здаў экзамен, а прафесар прыняў шклянку халоднай вады.

**Павел Абадоўскі**

ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!



*Капітуляцыя.*





*— Віншую цябе з пачаткам аўтасезона.*

### НЕ ЗДЗІВІЛА

— Люся, ты, ведаеш, я выходжу замуж за Андрэя!

— Гэта мяне не здзіўляе. Год назад, калі я адмовілася выйсці за яго замуж, ён сказаў, што ўжо нічога больш у жыцці не мае для яго ніякага значэння.

### ПРЫШЧЭПЛІВАННЕ

У прыёмнай лекара сярод пацыентаў пачынаецца размова аб важнасці прышчэплівання.

— Лухта ўсё гэта, — катэгарычна заяўляе адзін з іх. — У мінулым годзе я зрабіў прышчэпліванне і на другі дзень зламаў нагу.

— Зусім магчыма, — згадзіўся другі, — сыроватка дзейнічае не адразу.

### КЛОПАТЫ БАБУЛІ

Бабулі ўпершыню паставілі тэлефон. Неўзабаве яна патэлефанавала на тэлефонную станцыю:

— Калі ласка, памажыце мне, — сказала яна, — мой тэлефонны провад надта доўгі, і я ўвесь час чапляюся за яго. Пацягніце яго крыху з вашага канца.





### АБЫ НЕ ПАН

— Тату, тату! Чорт да нас лезе ў хату!

— Глупства! Абы не пан.

## МІНІВЕРШЫ

### БАЦЬКА СЫНУ ГАВАРЫЎ

Бацька сыну гаварыў:  
— Ты б, сыночак, не курыў,  
Бо тытунь усё ж атрута,  
Ад яго — адны пакуты:  
І задышка з ім, і спазмы,  
Ракі розныя ды язвы...

...Дай, саколік, прыкурыць:  
У мяне ўжо не гарыць.

**Пятро Сушко**

*„...Спыніцеся! Вы распудзіце мне ўсю рыбу!"*



...Ён з'еў на сваёй рабоце сабаку, але так і не зразумеў, дзе яна закапана.

...Ён брыўся тупой брытвай, бо любіў вострыя адчуванні.

# Факт і акт

*Прынялі дом. І склалі акт.*  
*І за сталы заселі,*  
*Каб гэты традыцыйны факт*  
*Спіртным засведчыць зелле.*

*Пілі за новы светлы гмах,*  
*За ўвод датэрміновы,*  
*За дзелавітасць і размах,*  
*За перамогу, словам...*

*Гудзеў да раніцы банкет,*  
*Пілі — за што папала:*  
*За столь, балконы і паркет,*  
*За дзверы і падвалы,*  
*За калідоры і замкі,*  
*За плінтусы, паліцы,*  
*Нат за шурупы і цвікі*  
*І іншыя драбніцы.*

*А раніцай — перапалох*  
*(Набраліся ўсе жаху).*  
*І хто б падумаць толькі мог —*  
*Дом здадзены без... даху!*

**Васіль Маеўскі**

### НОГІ БАЛЯЦЬ

Сустрэў адзін чалавек сябра ды й пытае:

— Чаму гэта ты пасля працы не дахаты ідзеш, а ў буфет?

А той адказвае:

— Ды, ведаеш, пакуль дайду дахаты, ногі забаляць. А ў буфеце вось пасяджу, а там і жонка прыйдзе ды й дахаты панясе.

### СХАВАЛІСЯ

Двое сядзяць на беразе рэчкі і вудзяць рыбу. Калі раптам пачаў ісці дождж.

Тады адзін кажа да другога:

— Злазьма ў рэчку, а то дождж нас замочыць.

### ГОНАР

— Калі б ты бачыў, як мяне пасля апошняга матча на руках насілі!

— Што, так многа галоў забіў?

— Не, нагу звіхнуў.

### АДЗІНАЕ

— Задаволены ты сваёй жонкай?

— Вядома. Адзінае, што я магу сабе пажадаць, каб наступная была не горшая.

### РАЗЛІЧЫЛАСЯ

У перапоўненым аўтобусе ўвадзіцель звяртаецца да пасажыраў:

— Перадавайце грошы на білеты.

Адна бабуля шукала, шукала грошай — няма.

— Перадайце, калі ласка, вадзіцелю піражок, — просіць яна суседзяў. — Я за яго пяць злотых аддала. Свежанькі.

### УВАЖЛІВЫ БАЦЬКА

— Выклічце, калі ласка, з трэцяга класа Кветка Алесю! — папрасіў адзін чалавек настаўніка.

— А хто вы ёй будзеце?

— Як хто? Я — яе бацька!

— Дзіўна.

— Чаму дзіўна?

— Таму, што ваша дачка навучаецца ўжо не ў трэцім, а ў чацвёртым класе...



*Турма катэгорыі „люкс".*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі і Веры Манцюк з Міхалічаў змяшчаем песню з рэпертуару Марылі Радовіч.

## GDY PIOSENKA SZŁA DO WOJSKA

słowa: Jerzy Kleyny  
muzyka: Katarzyna Gärtner

A czemuż wiatr od świtu śpiewa?  
Dlaczegóż to po lasach drzewa?  
Piosenka w długą drogę rusza, raz i dwa...  
Piosenka przed komisją zaraz stanie,  
bo ma do wojska powołanie,  
do wojska powołanie wielkie ona ma.  
Tam za nią wezmą się lekarze  
i tam dopiero się okaże  
czy wszystko jest na medal  
i czy wszystko gra.  
Przed nimi nic się nie ukryje  
słuchają jak jej serce bije  
i marsz do woja kategoria „A"!

Refren:  
Gdy piosenka szła do wojska,  
to śpiewała cała Polska,  
bo piosenka szła do wojska jak na pierwszy bal.  
Grały skrzydła samolotom  
nawet w czołgu śpiewał motor,  
na strzelanie szła z piechotą: cel i pal.

Na służbie bywa dniem i nocą  
i żyje się jej śpiewająco  
jak gdyby w wojsku służyła nie od dziś.  
A na dworcu, zamiast gorzko płakać,  
dziewczyna śpiewa do chłopaka,  
bo jak do wojska, to z piosenką iść!

Refren:  
Gdy piosenka szła...

Bo próżne wszelkie udawanie  
do wojska gdy się powołanie,  
do wojska powołanie wielkie gdy się ma...  
Tak było i z piosenką,  
dziś starczy skinąć ręką,  
do wojska z końca świata też by szła i szła...  
I duma ją rozpiera,  
że nawet sam generał ją osobiście zna!



*Без слоў.*





### УТАЙМАВАННЕ СВАВОЛЬНІЦЫ

Жыхар Заходняга Берліна Курт Весель, пасварыўшыся з жонкай, вырашыў як след правучыць сваю спадарожніцу жыцця, нацкаваўшы на яе двух „хатніх" жывёлін — Чарлі і Джанатана. Жонка ў паніцы ўцякла з хаты, бо Чарлі і Джанатан — васьмідзесяцісантыметровыя алігатары, дрэсіроўкай якіх з захапленнем займаецца яе муж.

### НЯДОЎГА ЎСМІХАЛАСЯ ІЛЬЗЕ

23-гадовая Ільзе Вейдэ, парыкмахер з невялікага дацкага гарадка Эзберга, нядаўна стала пераможцай конкурсу „Дзяўчына з самай чароўнай усмешкай", праведзенага папулярным штотыднёвікам „БТ". Пасля таго, як фатаграфія ўсміхаючайся Ільзе з'явілася ў „БТ", да яе з усіх канцоў краіны пасыпаліся пісьмы. Былі сярод іх прапановы рукі і сэрца, былі і дзелавыя пасланні. Першыя яна рашуча адхіліла, а на запрашэнні паступіць у буйнейшую парыкмахерскую Капенгагена дала згоду.

Не прайшло аднак і месяца, як дырэкцыі давялося звольніць Ільзе. Настойлівая ўвага сталічных кліентаў выводзіла яе з сябе, і замест славутай усмешкі яны часта сустракалі на яе твары раздражненне і гнеў. За гэта Ільзе і страціла месца.

### ПРАЗ 112 ГАДОЎ

На канферэнцыі юрыдычных работнікаў Пакістана выявіўся курёзны факт. Аказваецца, суддзі вярхоўнага суда Пакістана атрымліваюць аклады, устаноўленыя ўрадам Вялікабрытаніі... 112 гадоў назад. Пытанне аб іх пераглядзе ўзнімалася ў мінулым не раз. Але толькі цяпер вырашана заняцца пытаннем павелічэння акладаў суддзям гэтай катэгорыі.





*Многа залежыць ад каня, але сёе-тое і ад аўса.*